**СОНЦА:**
Усход, заход, даўжыня дня:
Мінск — 7.50, 16.57, 9.07;
Віцебск — 7.46, 16.43, 8.59;
Магілёў — 7.39, 16.47, 9.08;
Гомель — 7.31, 16.49, 9.18;
Гродна — 8.04, 17.13, 9.03;
Брэст — 8.00, 17.19, 9.19.

**МЕСЯЦ:**
Маладзік 3 лютага.

**ІМЯНІНЫ:**
Клімента, Генадзя, Феакціста;
Агаты, Адэлаіды.

# ЗВЯЗДА

5 ЛЮТАГА 1992 г.
серада, № 25 (21803)

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 40 кап.


## РОЗГАЛАС

## ІТАЛЬЯНЦЫ ДАПАМАГАЮЦЬ НАМ ПАЗНАЦЬ БЕЛАРУСЬ

Як ні дзіўна, але — факт! Італьянцам, якія вырашылі інвесціраваць будаўніцтва беларускага культурнага цэнтра «Вытокі», было даручана ганаровае права ўбіць першы калок на месцы будучай новабудоўлі. Разам з прэзідэнтам Італа-беларускай гандлёвай палаты Д. Курцы на гэтым сімвалічным аб'екце працаваў і намеснік міністра культуры Рэспублікі Беларусь М. Падгайны.

Італія дапаможа Беларусі на ўзаемавыгадных асновах. Замежныя бізнесмены перакананы, што выгадна будаваць можна толькі хутка, таму ўвесь комплекс на беразе Свіслачы будзе ўзведзены за паўтара-два гады. У ім размесяцца майстэрні народных умельцаў, магазіны, тэатральная зала, гасцініца, музей, бізнес-цэнтр, рэстаран з італьянскай і беларускай кухняй.

— Комплекс «Вытокі» ўзнікне не на пустым месцы, — сказаў карэспандэнту кіраўнік калектыву, які распрацаваў праект забудовы і рэканструкцыі, заслужаны архітэктар Беларусі Леанід Левін. — За аснову мы ўзялі старажытныя карпусы, якія цяпер займае бісквітная фабрыка. Вытворчасць атрымае новыя сучасныя плошчы, а тут, амаль у самым цэнтры старога Мінска, будуць выкананы рэстаўрацыя і некаторыя будаўнічыя работы. Разлічваем аднавіць першапачатковы выгляд будынкаў, добраўпарадкаваць берагі Свіслачы. Старажытная архітэктура будзе спалучацца з сучасным стылем лёгкіх павільёнаў. Нават старую заводскую трубу не абышлі ўвагай — яна стане своеасаблівым упрыгажэннем аднаўленай гістарычнай зоны.

— Укладваем сродкі з надзеяй на прыбытак, — сказаў прэзідэнт Італа-беларускай палаты Джузепе Курцы. — Ваша рэспубліка вельмі багатая на рэсурсы і ў той жа час бедная. Вытокі беднасці, на маю думку, у дрэннай арганізацыі працы. Мы прапануем беларускім партнёрам праверацы еўрапейскі вопыт і спадзяёмся на поспех. Дарэчы, будаўніцтва ў Мінску не адзіны прыклад нашага супрацоўніцтва: гэтымі днямі ў Магілёве мы адкрываем два магазіны, ёсць дамоўленасць у галіне гасцінічнага бізнесу, стварэння ў Беларусі школы менеджэраў.

На беразе Свіслачы каля шматпавярховай гасцініцы «Беларусь» убіты першы калок новага аб'екта. Будуецца не толькі культурны комплекс, закладваюцца новыя ўзаемаадносіны паміж дзелавымі людзьмі розных краін.

**Я. ПЯСЕЦКІ.**

**На здымках:** намеснік міністра культуры Рэспублікі Беларусь **М. Падгайны** і прэзідэнт Італа-беларускай гандлёвай палаты **Д. Курцы** на месцы будучай новабудоўлі; макет культурнага цэнтра «Вытокі»; аўтары праекта — кіраўнік творчай майстэрні **Л. Левін** (першы справа) і архітэктары **Ю. Градаў, І. Дзятлаў, М. Самасюк, У. Кузьмін, А. Капылоў.**

МІНІ-АПЫТАННЕ

## «ЯК-НЕБУДЗЬ ПРАЦЯГНЕМ...»

**У апошні час выразам «вымушаная мера» ўжо не запалохаеш наш народ. Увядзенне візітных картак, талонаў на прадукты, купонаў, павышэнне цэн — усё гэта з лёгкім храхценнем уваходзіць у наша жыццё. Мы ж паціху да гэтага прывыкаем і праз некалькі дзён, як кажуць, усё ў парадку: размовы сціхаюць хутка — новаўвядзенні застаюцца. Затое, жартуюць людзі нявесела, краіна «саўкоў» паціху стала ператварацца ў больш-менш «цывілізаваную»: чэргі знікаюць, прылаўкі запаўняюцца таварам. І справа не ў тым, што вырабляць больш пачалі, а ў тым, што кашалькі пакупнікоў не заўсёды могуць пацягацца з цэнамі. І вось апошняя «мясная» пастанова ўрада. Што наконт яе думаюць спажыўцы?**

**Андрэй Рыгоравіч ШАЎЧЭНКА, пенсіянер:** Я не ведаю, чаго чакаць далей ад урада. Калі павысілі цэны на малочныя вырабы, на хлебапрадукты — гэта шакіравала, але, згадзіцеся, перажыць можна было. На хлеб і малако па сённяшнім часе ў мяне грошай хапіла б. Але калі заходзіш у сталовую і бачыш, што адзін шніцель каштуе 7.31, дык міжволі пачынаеш думаць: «Можа сёння абысціся без другога?». Я не вегетарыянец і жыць без мяса ніяк не магу. Застаецца надзея на тое, што ўрад добра падумае і з павышэннем цэн на мясныя прадукты падыме і пенсіі.

**Аляксандр ФАМІН, студэнт:** Што магу сказаць наконт апошняй пастановы ўрада? Сіла! Адчуваю, што жыццё ўжо не на жарты пачынае паварочвацца да мяне спінай. Учора паабедаў у «Чабурэчнай». Узяў салат мясны, суп гарохавы, два чабурэкі, смятану, булачку, кампот. Прычым, дурань, не глянуў на цэннікі, пра пастанову гэтую забыўся: хацелася добра паесці — і ўсё. На касе разлічваюся — 24 рублі. А я разлічваў увесь тыдзень жыць на 60 рублёў, якія прывёз з дому. Вось я і кажу: «Сіла!»

**Дзмітрый БАРЫСЕВІЧ, інжынер:** Усё разумею: і мера вымушаная, і краіну трэба выцягваць з бездані, і... Але жыць добра таксама хочацца. Я чалавек сямейны. У нас з жонкай трое малых. Я ж ім не скажу: «Дзеці, цэны на мяса павялічыліся, так што сёння сядзім на дыеце». Мала таго, што яны ўжо даўно не помняць смаку шакаладнай цукеркі, дык не хочацца, каб выраслі да таго ж і рахітамі. Пакуль грошы ёсць, буду купляць і каўбасу, і мяса, а потым, мабыць, прыйдзецца залезці ў даўгі.

**Ігар ШЧУЧЭНКА.**

## КІРМАШ ПАГРАНІЧЧА

**Крок да супрацоўніцтва паміж дзелавымі людзьмі з Гродзеншчыны і Беласточчыны зроблены. Аднак надзеі на яго эфектыўнасць пакуль што вельмі туманныя**

Дэманстрацыі разнастайных дасягненняў у многіх з нас даўно выклікаюць алергію. І асабліва сёння, калі прылаўкі альбо пустуюць, альбо шакіруюць пакупнікоў цэнамі, якія па кішэні лічаным асобам. Таму не дзіўна, што выстаўка тавараў з Беласточчыны, якая тры дні праходзіла ў гродзенскім Доме навукі і тэхнікі, не была мнагалюднай. Відаць, яны вырашылі, што лепш пастаяць у чарзе за каўбасой ці гарэлкай, чым глядзець на гэтыя і іншыя вырабы (мэблю, абутак, адзенне, цыгарэты, касметыку і г. д.) на выстаўцы.

Аднак польскія фірмы (а іх было прадстаўлена звыш двух дзесяткаў) і не імкнуліся сабраць як мага больш наведвальнікаў. Перш за ўсё іх цікавілі сустрэчы з дзелавымі людзьмі Гродзеншчыны, каб падрыхтаваць глебу для заключэння разнастайных кантрактаў. Праўда, як мне здалося, і тут гасцей з Беластока чакала расчараванне: мала хто з кіраўнікоў і спецыялістаў нашых дзяржаўных і кааператыўных прадпрыемстваў наведаў выстаўку, і прадстаўнікі многіх фірм яўна сумавалі за сваімі столікамі. І гэта можна было прадбачыць. Як паведаміў адзін з арганізатараў кірмашу, толькі за два дні да яго пачатку ў Гродна атрымалі з Беластока спіс фірм, якія будуць удзельнічаць у гэтым мерапрыемстве. Практычна ніякай рэкламы аб ім (апрача сціплай аб'явы ў абласной газеце) не было — ці то часу не хапіла, ці сапраўднай зацікаўленасці. Адным словам, ураджанне такое, што ўсё рабілася ў спешцы, без папярэдняга вывучэння магчымасцей сваіх партнёраў і падрыхтоўкі канкрэтных прапаноў па супрацоўніцтву.

Але не будзем вельмі строга судзіць арганізатараў кірмашу, бо першы блін нярэдка камяком. Лепш зададзімся пытаннем: а ці існуюць рэальныя перспектывы ў супрацоўніцтва паміж прадпрымальнікамі двух суседніх рэгіёнаў? Менавіта аб гэтым і ішла гаворка ў канферэнц-зале кірмашу, дзе ў заключны дзень сабраліся прадстаўнікі зацікаўленых бакоў. Намеснік старшыні Гродзенскага аблвыканкома Л. Кардаш некалькі разоў спрабаваў высветліць у прысутных, ці з'явіліся нейкія дамоўленасці аб супрацоўніцтве. Нічога канкрэтнага ў адказ не прагучала. Праўда, як потым высветлілася, некаторыя сувязі ўсё ж наладжваюцца. Да таго ж, бізнес — справа далікатная, тут ні спешка, ні залішнее афішыраванне не патрэбны. І тым не менш гутаркі з удзельнікамі кірмашу пераконваюць, што надзеі на эфектыўнасць супрацоўніцтва паміж вытворцамі Гродзеншчыны і Беласточчыны пакуль што даволі туманныя.

— Сёння ў польскіх магазінах тавараў больш, чым трэба, рынак перанасычаны, — гаворыць начальнік аддзела прамысловасці, гандлю і паслуг Беластоцкага ваяводства Ян Легета. — А ў вас пустыя прылаўкі. Мы маглі б вельмі хутка запоўніць іх самымі разнастайнымі таварамі. Але што нам потым рабіць з атрыманымі рублямі? Што мы зможам на іх купіць?

Гэту праблему закранала практычна ўсе госці з Беластока. Асабліва, мне здалося, іх настрой пагоршыўся пасля выступлення супрацоўніка Гродзенскай мытні, які праінфармаваў аб шматлікіх абмежаваннях на шляху прадпрымальніцкай дзейнасці. Не будзем дэталізаваць, падкрэслім галоўнае: сёння па вялікаму рахунку польскім фірмам і сапраўды нявыгадна пастаўляць нам сваю прадукцыю, паколькі ніякіх гарантый атаварвання рубля няма.

— Заключу я сёння кантракт, — разважае кіраўнік адной з фірм, — аднак ці можна будзе яго рэалізаваць у сакавіку, ліпені? Дзе гарантыя, што да таго часу не з'явяцца новыя абмежаванні? Тут, на кірмашы, нам раяць кожную канкрэтную праблему ўзгадняць з вашымі ўладамі. Мабыць, заўсёды ёсць выключэнні з правіл. Але нармальны бізнес павінен грунтавацца не на выключэннях, а на стабільных нормах.

Так, сёння мы жывём у нейкім часовым рэжыме. І трэба нарэшце не толькі на словах выступаць за ўмацаванне эканамічных сувязей з іншымі дзяржавамі, але і на справе выпрацаваць свае прыярытэты, сваю канцэпцыю ўзаемаадносін з замежнымі прадпрымальнікамі, нейкія гарантаваныя ад пастаяннага карэкціравання правілы «гульні». Ну проста сорамна хоць бы ад такой «дробязі»: госці з Беластока прывезлі з сабой долары і з вялікімі цяжкасцямі абмянялі іх на... рублі, каб заплаціць за гасцініцу.

Дарэчы, сярод нашых прыярытэтаў наўрад ці павінен быць бартэр. А між тым вакол гэтага «дзіцяці» натуральнага гаспадарання ў асноўным і круціліся размовы на кірмашы ў Гродна. Усё проста: ты — мне, я — табе, нам выгадна і не трэба ламаць галаву над выпускам новых арыгінальных вырабаў. Для палякаў, дзе рынак перанасычаны таварамі, гэта, магчыма, і выгадны шлях. А для нас? Адзін з вынікаў бартэру я, відаць, і ўбачыў у кіёску непадалёк ад будынка, дзе праходзіў кірмаш. Стограмовы пакецік бразільскай кавы ў зярнятах каштаваў... 85 рублёў. Што і казаць, «ашчаслівілі» нашых пакупнікоў.

І ўсё ж не хочацца завяршаць гэты матэрыял на песімістычнай ноце. Добра, што кірмаш пагранічча адбыўся, што першы крок да супрацоўніцтва паміж дзелавымі людзьмі Гродзеншчыны і Беласточчыны зроблены. Ці будзе гэта супрацоўніцтва цывілізаваным і ўзаемавыгадным — пакажа час.

**Барыс ПРАКОПЧЫК,**
**уласны карэспандэнт «Звязды» па Гродзенскай вобласці.**

## ЦІ БУДЗЕ ЛЕПШ ЗАЎТРА?

ІВАНАВА (Брэсцкая вобласць). Не самы лепшы час выбраў для сустрэч са сваімі выбаршчыкамі народны дэпутат Старшыня Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь В. Кебіч. Тым важней, як прызнаў сам прэм'ер-міністр, у такой няпростай сітуацыі параіцца з людзьмі, зверыць з іх трывогамі і клопатамі дзеянні ўрада. Сёння ў Іванаўскім раёне В. Кебіч прадоўжыў сваю напружаную рабочую праграму па канкрэтнаму знаёмству з праблемамі Палескага краю, якія ў большай або меншай ступені ўласцівы іншым рэгіёнам рэспублікі.

А напярэдадні вечарам у Іванаўскім раённым Доме культуры адбылася сустрэча з выбаршчыкамі райцэнтра. Як было падкрэслена на ёй, сітуацыя сёння дайшла да небяспечнай мяжы, за якой могуць быць толькі хаос і непрадказальныя вынікі. «У апошні час, — сказаў В. Кебіч, — апазіцыя адкрыта агітуе за адстаўку парламента рэспублікі. А значыць, і цяперашняга ўрада, якому так няпроста працаваць. Але ж ніхто не можа гарантаваць, што ў цяперашніх умовах новыя выбары адбудуцца наогул. Прыклад таму Мінск, дзе да гэтага часу нямала вакантных дэпутацкіх мандатаў».

Да чаго ў такім выпадку можа прывесці безуладдзе, дагадацца няцяжка. Як падкрэсліў прэм'ер-міністр, ні ён сам, ні члены кабінета за кіруючыя крэслы не трымаюцца. Аднак пакуль не вычарпаны крэдыт даверу большасці народа, з боку цяперашняга кіраўніцтва рэспублікі будуць прыкладацца ўсе сілы для таго, каб выйсці на нармальны, цывілізаваны шлях развіцця.

Дэпутат адказаў на пытанні выбаршчыкаў. У прыватнасці, адказваючы мясцовым медыкам, якія гаварылі аб катастрафічным становішчы з забеспячэннем медыкаментамі, прэм'ер адзначыў, што разам з недахватам збожжа, алею і цукру гэта праблема сёння для рэспублікі — адна з найбольш вострых. Патрэбнасць у медыкаментах і інструментарыі ацэньваецца як мінімум у 120—180 мільёнаў амерыканскіх долараў. Ажыццяўляюцца меры, каб паправіць сітуацыю. Аб гэтым ішла размова ў час нядаўняй паездкі ў Кітай. Яна будзе прадоўжана ў хуткім часе, калі ўрадавая дэлегацыя наведае Індыю. Ёсць дагаворанасць і з заходнееўрапейскімі краінамі. Урад ідзе нават на тое, каб увесь бартэр, а гэта ў асноўным калійныя ўгнаенні, мазут, трактары і часткова вялікагрузныя БелАЗы, быў накіраваны ў абмен на медыкаменты. Што ж датычыць цукру, які перастаў паступаць з Украіны, то і тут сітуацыя хутка некалькі зменіцца. Дасягнута дагаворанасць з Кітаем, адкуль паступіць у адрас Беларусі 200 тысяч тон цукру.

Аб многіх бедах і трывогах было сказана В. Кебічу на сустрэчы са старшынямі і дырэктарамі раёна, якая сёння раніцай адбылася ў райвыканкоме. Апярэджваючы многія пытанні, прэм'ер-міністр адзначыў, што цяпер актыўна вядзецца сур'ёзная работа для спынення цэнавага самавольства прадпрыемстваў-манапалістаў. Чакаецца таксама і некаторае аблягчэнне фуражнай праблемы за кошт закупак за мяжой, хоць рэспубліка павінна імкнуцца да самазабеспячэння збожжам, і магчымасці тут далёка не вычарпаны.

На сустрэчы было ўзнята пытанне і аб біржавай дзейнасці, якую кіраўнікі гаспадарак прама назвалі ўзаконенай спекуляцыяй. Прэм'ер-міністр паабяцаў, што ў бліжэйшы час будзе прынята пастанова, якая забароніць прадаваць на біржах па павышаных цэнах прадукцыю, што выпрацоўваецца на дзяржаўных прадпрыемствах. Прапрацоўваецца таксама пытанне стварэння ў рэспубліцы фінансавай паліцыі з правам вядзення дазнання.

Сёння ж адбылася сустрэча В. Кебіча з выбаршчыкамі ў калгасе «Кастрычнік». На ёй прысутнічалі таксама прадстаўнікі чатырох суседніх гаспадарак.

**І. КУКСА,**
**кар. БЕЛТА.**

## «КАМЕРСАНТ» ДЗЕЙНІЧАЕ

**ГОМЕЛЬ (У. Пернікаў). Пры кааператыўным інстытуце створана вышэйшая камерцыйная школа «Камерсант», якая павінна падрыхтаваць спецыялістаў-прафесіяналаў для рыначнай эканомікі. 20 чалавек атрымліваюць тут тэарэтычныя і практычныя навыкі для работы ў новых умовах. Па ініцыятыве мясцовай таварна-сыравіннай біржы яна арганізавала падрыхтоўку ў вытворчым аб'яднанні «Гомсельмаш» брокераў, якія аказваюць паслугі па здзелках паміж кліентамі біржы.**

## Мітынг будзе. А тавары?

**УШАЧЫ. На ўвесь раён паведаміў намеснік старшыні Ушацкага райвыканкома аб тым, што на кожнага яго жыхара прададзена тавараў на 2.012 рублёў. Такая лічба. А ў сапраўднасці вясковыя жыхары ў мінулым годзе змаглі атаварыць, у лепшым выпадку, толькі талоны на бялізну і шкарпэткі. Амаль усе астатнія запрашэнні на набыццё тавараў засталіся на руках у вяскоўцаў лішняй паперкай. Па гэтай прычыне і з-за іншых праблем раённыя актывісты грамадскага руху, якія стварылі савет прадстаўнікоў працоўных калектываў, вырашылі высветліць адносіны з мясцовымі ўладамі на мітынгу. Дазвол на яго правядзенне атрыманы. Адбудзецца ён у нядзелю, 9 лютага.**

## НОС ВЫЦЯГНЕШ—ХВОСТ ЗАГРАЗНЕ

ПІНСКІ РАЁН (**У. Равіцкі**). Увядзенне шматразовых купонаў на Украіне балюча ўдарыла па яе бліжэйшых суседзях.

Напрыклад, на Піншчыне па традыцыі амаль кожная гаспадарка заключыла падрад з жыхарамі ўкраінскіх сёл на вырошчванне цукровых буракоў. Гэтай працаёмкай работай займалася ў раёне каля 600 прыезджых. Кожны з іх браў па 3—4 гектары, так што практычна ўся плошча пад культурай апрацоўвалася ўкраінскімі брыгадамі. Выгада была ўзаемная. Але з пачаткам эры купанізацыі паўстала праблема разлікаў з украінцамі за работу. Рублі і нашы купоны ім не патрэбны. Адмовіцца ад прыезджых брыгад нельга — не знойдзеш рабочых рук дома, каб дагледзець 2 тысячы гектараў буракоў. Прыйдзецца, відаць, уводзіць натуральную аплату, але тады ўзнікне праблема з вывазам сельгаспрадукцыі за межы рэспублікі. Вось і ламаюць галовы кіраўнікі раёна і гаспадарак, як выйсці з сітуацыі.

## НЕ ПА КІШЭНІ

**ПІНСК (С. Шапіра). Апусцеў кандытарскі цэх Пінскага хлебазавода — рабочыя пайшлі ў адпачынак. І не па свайму жаданню. Проста прадукцыя цэха — кексы, пясочныя пірожныя, сушкі і г. д. — стала многім пакупнікам не па кішэні. Калі раней гандаль заказваў паўтары тоны заводскай выпечкі ў дзень, то зараз ледзь распрадаецца 100 кілаграмаў.**

**Між тым, кандытары не адзінокія ў сваёй бядзе. Пасля лібералізацыі цэн прастойвае і абсталяванне паўвэнджаных і вэнджаных каўбас на мясцовым мясакамбінаце. Прычына тая ж — трохзначныя лічбы на цэнніках адпуджваюць пінчан.**

ЛУНІНЕЦКІЯ НАВІНЫ

### ПАГРОЗА ЭНЕРГЕТЫЧНАГА КРЫЗІСУ

прымусіла гарадскія ўлады Лунінца прыняць рашэнне аб адключэнні ў кватэрах гарачай вады. Такім чынам спадзяюцца павялічыць цеплазабеспячэнне шматкватэрных дамоў, скараціць расходы дэфіцытнага паліва, рэшткаў якога, паводле падлікаў, хопіць толькі на шэсць сутак. Далей, відаць, прыйдзецца спадзявацца на міласць прыроды. Ёсць апасенне, што збоі ў забеспячэнні электраэнергіяй таксама непазбежныя. Стаіць пытанне аб адключэнні яе на некалькі гадзін уначы.

### ЗА ХЛЕБАМ ЧЭРГІ НЕ ЗМЯНШАЮЦЦА

Пасля татальнага падаражання хлеб застаўся, бадай, адным з галоўных у мізэрным пераліку даступных для большасці лунінчан прадуктаў харчавання. Аднак і яго дастатку на мясцовым хлебазаводзе не абяцаюць. Прычына адна — не хапае сыравіны. У сувязі з гэтым прыйшлося рэзка скараціць асартымент хлебабулачных вырабаў. На поўную магутнасць працуе толькі адна невялікая печ. 20 тон хлеба, якія выпякаюцца ў ёй штодзённа, не могуць задаволіць попыт жыхароў Лунінеччыны. А таму чэргі ля хлебных магазінаў не знікаюць.

### А КАЛГАСЫ МЯНЯЮЦЬ НАЗВЫ

Светлую будучыню мы так і не пабудавалі. Таму без ваганняў развітваемся з яе сімваламі. Яшчэ ўчора ў Лунінецкам раёне быў калгас «Шлях да камунізму». Сёння ж ён называецца проста і лаканічна — «Лунінскі». «Маяк камунізму» застаўся проста «Маяком».

**Т. ВАЙЦЯХОЎСКАЯ.**

## ЦЭНЫ НА РЫНКАХ

**(у рублях)**
**4 лютага**

**МАСКВА (Рыжскі рынак).** Бульба (1 кг) — 15, капуста — 15—20, морква — 15—20, буракі — 15—20, смятана — 150—180, тварог — 70—80, малако — 40, ялавічына — 200—250.

**ВІЛЬНЮС.** Бульба — 3, капуста — 3—5, морква — 3—5, буракі — 3—5, смятана — няма, тварог — няма, малако — няма, ялавічына — 80—150, свініна — 80—150.

**РЫГА.** Бульба — 5—10, капуста — 3—4, морква — 6—8, буракі — 5—10, смятана — 80—100, тварог — 30—40, малако — 8—12, ялавічына — 40—100, свініна — 80—110.

**ТАЛІН.** Бульба — 15, капуста — 3—6, морква — 6—7, буракі — 6—7, смятана — няма, тварог — няма, малако — няма, ялавічына — няма, свініна — 80—120.

**САНКТ-ПЕЦЯРБУРГ (Кузнечны рынак).** Бульба — 10—20, капуста — 10—15, морква — 10—15, буракі — 10—30, смятана — 100, тварог — 40—50, малако — няма, ялавічына —100—200, свініна — 100—300.

**МІНСК (Камароўскі рынак).** Бульба — 7—8, капуста — 5, морква — 3—5, буракі — 7, цыбуля — 10, смятана—100—110, тварог — 35—40, малако — няма, ялавічына — 90—100, свініна — 100—120, сала — 80, бараніна — 80—90, рыба свежая — 50, яблыкі — 32—80, мандарыны — 35—80, цыгарэты «Космас» — 15, піва (1 бут.) — 10. Сямідзесяцірублёвы ліст купонаў прадаваўся за 50—70 рублёў, сторублёвы — за 70—80.

**«Агенцтва РІД».**

## «ДЫВЕРСАНТ» ВЫЯЎЛЕНЫ

**МІНСК. Мінулай ноччу ў 3 гадзіны 35 мінут адбылося кароткае замыканне на першай секцыі ЦЭЦ-2 па вуліцы Аранскай. Пашкоджаны корпус. Да 5 гадзін ночы не працавалі дзве турбіны, чатыры катлы і трансфарматар сувязі. Збояў у падачы электраэнергіі і цеплазабеспячэнні не было. У выніку расследавання высветлілася, што «дыверсію» ўчыніў... кот, які, блукаючы па нейкіх сваіх патрэбах, трапіў на электрашыну.**

## Ідзём па-банку?

Па ініцыятыве рэспубліканскага Нацыянальнага банка Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Станіслаў Шушкевіч накіраваў у адрас кіраўнікоў дзяржаў СНД прапанову па пытанню аб заключэнні міжбанкаўскага пагаднення.

Беларускія банкіры занепакоены: у цяперашні час, пры выкарыстанні агульнай для ўсёй Садружнасці грашовай адзінкі грашова-крэдытная палітыка нікім не рэгулюецца, адсутнічае адзіны банкаўскі інстытут, у функцыі якога ўваходзілі б улік і рэгуляванне эмісійных аперацый.

У пакет дакументаў, накіраваных Станіславам Шушкевічам сваім кампаньёнам па СНД для разгляду, увайшлі праект Міжбанкаўскага пагаднення, распрацаваны беларускімі банкірамі, і прапанова па пытанню аб раздзеле маёмасці былых Дзяржбанка, Аграпрамбанка, Знешэканомбанка і Ашчадбанка СССР. Ад Масквы патрабуецца таксама дакладная і юрыдычна аформленая інфармацыя аб аб'ёме капіталаў названых банкаў, аб іх укладаннях у банкі Захаду і г. д.

Пакуль жа, паводле выказвання старшыні праўлення Нацыянальнага банка Беларусі Станіслава Багданкевіча, «Цэнтральны банк Расіі згодзен дзяліць маёмасць Дзяржбанка СССР, аднак інфармацыю аб ім не дае».

**Сяргей ШАПРАН,**
**БелаПАН.**

